Pócz ta opłacona ryczałtem.

Адзін № каштуе 35 гр.

№ 5. |6|. Серада 18-га Сакавіка 1925 г. Год II.



ДВАТЫДНЁВІК САТЫРЫ, ЖАРТАЎ І СЬМЕХУ.

Чым цяпер займаюцца некаторыя безработныя інтэлігенты нашы на вёсцэ.



...Толькі памагаюць катам у іхняй марцовай музыцы.




## БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ ХОЧУЦЬ...

1.

За Царом яшчэ Міколам
Тут калісьці была школа,
- - - - - - - - - - -
- - - - - - - - - - -
Дзеці ў школу не хадзілі,-
Вось як школу апусьцілі.




2.

Янка, Тодар, дзядзька Клім
Доўга думалі аб тым,
Як бядзе тэй пасабіць,-
Школу родную адкрыць:
Каб, урэшце, ясна сонца
Засьвяціла нам ў ваконца
І асьветы промень ясны
Беларус пазнаў нішчасны.




3.

Вось парады у думках гэтых
Пачалі шукаць у газэтах...
І чытаюць, што наўкола
Паўстае радная школа,
Толькі трэ сабраўшы сход
Напісаць, што сам народ
Аб асьвеце ўсе клапоча,-
Беларускай школы хоча.



4.

Вось,па солтыса загаду,
Сабраліся ўсе на раду
І зрабілі прыгавор:
Каб у весцы „Чорны Бор"
Школу родную адкрыць...
Галавы каб не дурыць
Сваім дзеткам так на волі...
Хочэм школы і ..даволі."




5.

Дзядзька Клім і Тодар з Янкам
У дарогу выйшлі ранкам,
Каб прад панам інспектарам
Быць назаўтра с прыгаворам.
І прыйшлі яны да мэты
Ды знайшлі будынак гэты,
Прастаялі там ад раньня
Без гарбаты і сьняданьня.




6.

Увайшлі яны за дзьверы
Падалі свае паперы
І пачулі яны ўраз
Міласьцівейшы адказ:
-„Добра,добра,мае людзі!
Хай па вашаму ўжо будзе;
Толькі трэба пачэкаць-!"
(Так гадкоў мо' з дваццаць пяць...)

А. Малянка.

## УСПАМІН АБ КАРНАВАЛЕ.

Не адзін можа ўздыхае і жалее, што прайшоў мясаед, а з ім балі і гульні. Я дык дзякую Богу, што ўжо пост і німа баляў. Адзін успамін аб мясаедзе мяне трасе...

Насам-перш, хачу з чытачом па знаёміцца і адрэкамэндаваць сябе, хто я такі...Дзе я радзіўся і калі-ніяк ня помню, а жыву, дзякуй Богу, не на Лукішках. Мая прафесія, пытаецеся вы? Ах Божа! на вошта вам гэта ведаць? Досыць таго, што я жыву у Вільні і, дзеля тэй простай прычыны, маю многа маладых знаёмых (асабліва дзяўчат), а колькі іх было?!. не палічыць і ня ўспомніць. Ды ці ж аб усім можа чалавек помніць! Вось напрыклад, запытайцеся пана куратора: колькі у яго лічыцца вучыцелькаў-напэўна ня помніць, а нашто ужо чалавек з галавой і вучоны. Адным словам, вам скажу, што была у мяне знаёмая Марылька, Стэфка, Зоська, Суська,..

З пачатку было мне добра. Знаемства мае павялічвалася, ажыўлялася балямі, скокамі...Адна знаёмая мая служыла у тэлеграфе, другая-на тэлефоне, трэйцяя -у банку, у судзе. і. т. д... А трэба-ж вам ведаць, што кожная інстытуцыя у Вільні ладзіць што год балі, гульні, а ўсё у мясаедзе. На што гэта ім-Бог іх ведае! Мусіць проста так, адзін ад другога бяруць прыклад: скача дзедка, чаму не мае скакаць бабка, скача Варшава, чамуж ня можа паскакаць і Вільня. Дык вось і я з маімі знаемымі з аднаго балю на другі: з тэлефону у тэлеграф, з тэлеграфу у банк, з банку у суд, з су да у...і так далей і так што дзень скокі ды скокі.

Была у мяне (ах, мілы успамін.) адна кілбасьніца, таксама знаёмая, Стэфка з Кальварыйскай вуліцы (помню нат і № дому 24).

Чаму кілбасьнікі не ладзілі ба лю гэтага я ніяк ня мог даведацца Мо дзеля таго, што яны усе тлустыя і ім трудна скакаць, ці мо, як кажуць злыя людзі, ні было-б нас каму абдзіраць у мясаед, калі-б і кілбасьнікі скакалі...У гэта я усёткі, ня веру, бо мая Стэфка (ах-ужо не мая, толькі ўспаміны) была для мяне вельмі шчодрая: патрэбны мне былі на баль новыя лякеркі- купіла, Фрак-таксама, гальштучок-ёсьць і ён, -словам, ні жалела нічога...

Дык вось, значыцца, кілбасьнікі балю не ладзілі і я да Стэфкі захадзіў, калі балю ні было гэта здарылася аж на самы папелец.

У гэты дзень, як ведама, нідзе ні скакалі і мне было надта маркотна, як зрэдукаванаму чыноўніку. Дай, пайду да Стэфкі, -думаю сабе. Пайшоў я гэта на Кальварыйскую пад № 24 (пракляты №, што ні гаварыце, а я цяпер веру, што ёсьць праклятыя нумары)...

-Ці будзеш есьці халадзец пытае мяне.

-Не!

-Кілбаскі не дастанеш, бо, сягоньня пост. (трэба аддаць спра вядлівасьць-Стэфка была пабожная)

Ні маючы чаго рабіць селі мы, гэта, у куточку і я пачаў яе гладзіць і песьціць ды празываць рознымі зьвярынымі імёнамі: котачкай, ласачкай, ціпачкай і г.д.

З зоолёгіі пераехаў я на астраномію (прыдалася і мне хоць раз навука)...Тут пайшлі і месячык, і сонейка, і зорачкі...А калі я, гэткім парадкам, палез усё вышэй і вышэй, то у мяне, ад гэтай падарожы закруцілася у галаве горш як на балі...Я забыўся дзе я і з кім. Мне здалося, што я ня з Стэфкай, а з Зоськай і цалуючы у вушка Стэфку назваў Зоськай: „Мая ты мілая Зохначка,"-шапчу я...

Што гэта? Котачка, дагэтуль такая патульная, раптам наёжылася, быццам пачула каля сябе сабаку.

-Ага!-закрычэла яна, -дык у цябе ёсьць і Зохначка! Ах ты!..і з гэтымі славамі яна скочыла да мяне, як пантэра...Разступіся зямля...

Тут я толькі апомніўся, што я зрабіў і дзе я...Мае довады, што я нявінны, як паненка без.. без... без пасагу, як пан Валэйша без „Грамадзянскага Сабраньня," нічога не памаглі...Адзін мамэнт-і я знайшоўся, як мыш пад мятлой (толькі не пад мятлой, а пад софай), а на сваім хрыбце пачуў не пазуркі, а абцасы сваіх лякеркаў, што Стэфка з ног маіх ужо сарвала...

---

Як я вырвауся з ейных рук,як выскочыў на вуліцу бяз ботаў і бяз шапкі,ужо ня помню.Помню толькі: драў так шыбка,што аж самаход дагнаў і,ўскочыўшы да яго,троху апомніўся.

-Ці не бандзіты на пана напалі?,-прыглядаючыся пытае мяне нейкая дама.

-Не,-адказаў я .

-А можа спаткаўшая пан з чорнай дамай?,-пытае другая.

-А так,з дамай...

-З дамай?-Зачалі усе на мяне як на дзіва прыглядацца.

-Чорная дама паказваецца толькі на магільніку,-абясьніў нейкі ягомасьць .

-Дык мусіць она пшэшэдшы на Кальварыйска уліца,-кажа відаць пабялеўшая іімасьць.

-Быць ня можа! чаму...

-Гальля...-пачуўся голас кандуктара.Я хутчэй шмыгануў у краму, каб за апошнюю залатоўку купіць сабе хоць паношаныя трэпкі...

Дык вось,мае мілыя чытачы!Калі вам здарыцца мець шмат знаёмых -не называйце іх па іменьню,а называйце па зьвярынаму;будзьце асьцярожны і з астраноміяй ды вышэй месячыка ніколі не падымайцеся.

Ваш знаёмы І.Б.

---

oooooooooooooooooooooooooooooooo

## Зьехаў з глузду.

-Але-ж украінскі календар на 1925 год,пад назовай „Друкар",мусіць з глузду зьехаў.

-Чаму?

-Бо ён дае інфармацыю,што у Піншчыне усе украінцы,а беларусоў ні воднага .

-А як жа-ж?

-Праз мае рукі прайшло вельмі многа дакумэнтаў,дык там напісана у кожнага сяляніна усяе Піншчыны што ён беларус!..

-Пык-мык!пык-мык!

Дык-Дзеля.

---

Ці падахвоцілі Вы свайго суседа, каб хутчэй выпісаў „А в а д н я"?



## ПЕРАД ПАРТРЭТАМ СКАРЫНЫ.

|Адзін з сябраў выдав. Т-ва|

-Дзіва,чаму ты зморшчыўся?Гэта-ж табе трэба толькі цешыцца, што Т-ва зьбіраецца 25 г.м.сьвяткавацць 400 угодкі...

Дух Скарыны: -Я больш быў-бы здаволены убачыўшы вашу выдавецкую кніжну творчэсць ..

---

cccccccccccccccccccccccccccccc



Пасол Я. Адзначаецца свай прамовай і...валасамі.

## ДЗЬВЕ МАГЧЫМАСЬЦІ.

Да рабіна прыходзіць адзін яго парахвіянін і просіць рады:

— Пане рабін,-кажа ён,-чуваць,што будзе вайна,а мне падходзіць час на здачу у войска... Парадзьце,што рабіць,гэта-ж мяне так і-забіць могуць!

— Сын мой,адказвае рабін,-не так усё страшна,як табе здаецца. Перш-на-перш ты маеш дзьве магчымасьці:ці вайна будзе,ці вайны ня будзе.Калі вайны ня будзе-табе ужо добра,калі вайна будзе,то ты ізноў маеш дзьве магчымасьці: ці цябе на службу прызавуць,ці цябе на службу не прызавуць.Калі цябе на службу не прызавуць-табе ўжо добра,калі цябе на службу прызавуць,тут табе ізноў ёсьць дзьве магчымасьці:ці цябе на фронт пашлюць,ці цябе на фронт не пашлюць. Калі цябе на фронт не пашлюць-табе ўжо добра;калі-ж цябе і на фронт пашлюць,ізноў ты маеш дзьве магчымасьці:ці цябе на фронце раняць,ці цябе на фронце не раняць.Калі цябе на фронце не раняць-табе ўжо добра,калі цябе на фронце раняць,ізноў ты маеш дзьве магчымасьці:ці ты ад ранаў памрэш,ці ты ад ранаў не памрэш.Калі ты ад ранаў не памрэш-табе ужо добра;калі-ж ты ад ранаў памрэш, ізноў табе ёсьць дзьве магчымасьці:ці цябе пахаваюць у брацкай магіле,ці цябе пахаваюць на жыдоўскіх магілках;Калі цябе пахаваюць на жыдоўскіх магілках-табе ужо добра;калі-ж цябе пахаваюць у брацкай магіле-яшчэ і тут табе ёсьць дзьве магчымасьці:ці над табой крыж паставяць,ці над табой крыжа не паставяць.Калі над табой крыжа не паставяць-табе ўжо добра; калі-ж над табой крыж паставяць, тады...о-о-о!Тут ёсьць аб чым прызадумацца!

Падаў Гам-чхі.

---

## ГРАМАДЗЯНЕ.

Хто хоча мець „АВАДНЯ"на 2 квартал нехай шлець ураз-жа падпісныя грошы.Сёньняшнім гэтым № пачаўся другі квартал.

---

## ЗАГАДКІ.

1.Чым можа закончыцца гэткая зіма-цеплая і бязсьнежная?
2.Чым пахне гарэлка?
3.Куды воўк цягне ахвяру?
4.Хто перш за злодзеям гоніцца?
5.У якой старане сонца усходзіць?
6.Ад чаго блішчыць месяц?

б...а.

---

## У СУДЗЕ.

У дзяўчыны,каторай хлапец украў грошы з запазухі,судзьдзя пытае:

-Скажыце,як гэта магло стацца? Грошы у вас былі за пазухай,дык трэба было разшпіліць куртку?

-Разшпіліць куртку то я яму пазволіла,думаючы,што ён мае добрыя намерэньні,а ён дык вось,злодзей,украў грошы...

І.В.

---

## Лічба поедыньча і множна.

У школе настаўнік кажа да вучня беларуса:

-Як повеш на келішэк в лічбе поедыньчэй?

Вучэнь вылупіўшы вочы адказуе:

-Ня ведаю,што гэта за„клішак"

-Чым вудкэн піеце?

-А,гарэлку-чаркай.

-Ну,нех бэньдзе чарка.Як чарка-в лічбе множнэй?Як повеш,напшыклад 4,5,10 чарэк?

-Кварта,пане настаўніку.

-А до холеры!Мув:чарка в лічбе множнай бэндзе-чаркі.

-Будуць чаркі.

-Ну,а як бэндзе бутэлька в лічбе мчожнэй?

- Ня ведаю.

Настаўнік злуецца:

-А то,якесь быдле.Я ці выразне вытлумачыл на келішках...

-Не,на чарках.

Настаўнік закіпеў.

-Ну,як ты повеш,ежэлі в якім доме зобачыш дужо бутэлек?

-Піўная,або карчма,пане настаўнік.

Падаў Св.Знаёмы.

---

## З Г А В А Р Ы Л І С Я.

Баба парэзала сярпом палец. Прыходзіць да вучыцелькі і просіць яе памазаць рану ёдам.

Тая, абглядаючы ранены палец, гаворыць:

-Дужо пані вцела (моцна паня урэзала)!

-Ага, паненачка, -адказвае баба, -так, так... Крыху ў ногаць, крыху ў цела.

Гам-чхі.

---

## На лекцыі зоологіі.

-Смарчкевіч. Скажы, якія бываюць ракі?

-Ракі бываюць рэчныя, азярныя, марскія і...

-Ну, а ящчэ якія.

-І...

-Ня ведаеш? Цяпкін. Падскажы яму!

-І Ракі-Міхайлоўскія...

П...а

---

## НА ПАЖАРЫ...

-Хлопцы, гміна гарыць!

З усей вёскі бягуць на пажар.

-Не, гэта суд гарыць!

Усе разбегліся, хто куды.

-От, добра, аж з двух бакоў усмалілі! Гэдак і трэба: падумаць толькі, што судзьдзя за глупства штрафуе аж па 2000 зл., а за неяўку сьведкі-па 50 зл...

---

## НЕ ПЕРАНЁС.

-Чуў, суседзе? -Камандант застраліўся.

-Гм... Што-ж яму за хвароба.

-Усю хату нехта абклеіў за ноч камуністычнай прапагандай, дык ні перанёс, што да гэтага дапусьціўся.

Падаў дык-Дзеля.

---

ПАРА, браточкі, АБНАВІЦЬ ПЕРАДПЛАТУ на д р у г і квартал ...

---



-Відзіш, піша газэта, што Валэйша з Знамяроўскім разыйшліся.

-Гм... Шкадую аднаго і другога.

-Чаму.

-Яны шмат гэтым сабе пашкодзяць.

ооооооооооооооооооооооооооооооо

---

## І ТО РОЗУМ.

-Зближаецца канец сьвету-ляціць да Зямлі камета.

-Ня чую ніякай ад гэтага бяды.

-Ого, які ты не пужлівы!

-А на ліха-ж мне пужацца: я ящчэ ні разу не бачыў, што гэта за страх такі-камета.

--------------- б..а.

## ПАСЛУХМЯНЫ.

Дзяцюк веў на вяроўчыне цялё, каторае так упіралося і кідалося на усе бакі, што ледзь мог яго стрымаць. Ажно падъежджае ураднік.

-Ты чаму шапкі перада мной не зьнімаеш? закрычэў ён на хлопца.

-А як-жа, зара, зара зьніму шапку, толькі злезьце з возу і патрымайце, каня ласка, цялё, бо рукі маю заняты, -атказывае хлапец.

/„Беларус.“/

-Ты обяд хцэш?
-Хцу.
-Цо то за слово хцу?Аты хцэш?
-Хцэш.
-?!!

---

## АДГАДКІ.

1.Вясной.2.Сьпіртам.3.У лес.
4.Страх.5.На усходзе.6.Ад сонца.

---

## Сярэднія гады.

Прыходзіць 92 гадовы старэц зімой да суседа дый кажа:
-Ох.як сьцюдзёна!Гэта-ж у сярэднія гады,але што-ж будзе на старасьць?!

Дык-Дзеля.

---

-Доконт ты?-пытае паляк сяляніна.
-Але,вязу гонты-адказаў апошні.

## Наша Почта.

У Вілейку Гулецкаму для С.М. Пагуды выслана 5 №№ „Авадня",сваім часам-запытайцеся на почце.

Усім тым,што хочуць мець „АВАДНЯ",а ня ведаюць,як пераслаць грошы,мы прапануем зьвярнуцца за радай на сваю почту.Як прыйдзе падпіска-за намі дзела не пастаіць.

У гэтым №,на стар.6,напісана абмылкова-пачаўся другі,трэба лічыць КОНЧЫЎСЯ ПЕРШЫ КВАРТАЛ.

Аб атрыманьні падпіскі ужо ня будзем друкаваць,бо шкода мейсца:

Хто прышле грошы дык,усё роўна,будзе акуратна мець АВАДНЯ.

Нашым паважаным мастаком і пісьменьнікам дзякуем шчыра за матарьялы і рысункі і просім прысылаць ящчэ.

Усіх новых падпішчыкаў просім аб паведамленьні адразу,ці ім прысылаць „АВАДНЯ" ад № 1,ці ад дня падпіскі.

Дзеля поўнаты мы раім выпісываць усе №№ спачатку,бо усе яны надта цекавыя і багата люстраваныя.

Рэдакцыя.

---



---

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Wilno Завальна 7,пры кнігарні.

ПАДПІСКА:на 3м.1зл.80гр.,на паўгода-3зл.50гр.,на год-усяго 7зл.
За граніцу на год-тры даляры.

Рэдактар-Выдавец А.Васілеўскі.

Літ.Маца,вуліца Домброўскага 3,у ВІЛЬНІ.